# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 11 (733) ГОД XV БЕЛАСТОК 15 САКАВІКА 1970 г. ЦАНА 60 гр.


## ІНФАРМАЦЫЯ ГП БГКТ

**АБ ПРАЦЫ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА Ў ГАЛІНЕ ЗБІРАННЯ І ЗАХОЎВАННЯ ЭКСПАНАТАЎ МАТЭРЫЯЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ І МЯСЦОВАГА ФАЛЬКЛОРУ, ЗРОБЛЕНАЯ НА ПАСЯДЖЭННІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМІСІІ ВК ПАРП 17 ЛЮТАГА 1970 Г. САКРАТАРОМ ГП БГКТ ЯНКАМ ЗЕНЮКОМ.**

БГКТ ад моманту свайго ўзнікнення асаблівую ўвагу звярнула на справу народнай культуры ў асяроддзі беларускай меншасці. Да 1964 года дзейнасць гэта не мела акрэсленага кірунку. Дзеячы БГКТ паасобку збіралі экспанаты матэрыяльнай культуры, даследавалі звычаі, песні, танцы, абрады і іншыя праявы духоўнай культуры ў залежнасці ад зацікаўленняў даследчыкаў. Вынікі сваёй працы публікавалі яны ў тыднёвіку «Ніва», а таксама ў «Беларускіх календарах». На жаль, доследы гэтыя ў многіх выпадках не абапіраліся на навуковыя метады, паколькі БГКТ не мела для гэтага ні адпаведных спецыялістаў, ні адпаведнага абсталявання. У сувязі з гэтым сабраныя матэрыялы часта не ўяўлялі сабой вялікай навуковай вартасці і не маглі быць у многіх выпадках выкарыстаны практычна (напрыклад, песні запісваліся без нот, экспанаты збіраліся без метрычных даных і т.д.).

З 1964 года мы пачалі сістэматычна збіраць экспанаты для рэгіянальнага музея. Прафесіянальную дапамогу аказаў нам Этнаграфічны музей у Торуні. Першыя экспанаты, сабраныя (бясплатна) дзеячамі БГКТ, перахоўваліся ў памяшканнях праўлення БГКТ у Гайнаўцы і ў Нараўцы (у будынку, які адступіла для гэтых мэт гмінная кааперацыя). Нарэшце, пры дапамозе ПЗГС, а таксама палітычных і адміністрацыйных улад у Гайнаўцы і Белавежы, у Белавежы быў адведзены будынак для музея. Галоўнае праўленне БГКТ, абапіраючыся на свой актыў і штатных работнікаў, выканала грамадскім чынам працы, звязаныя з дастасаваннем будынка для музея, а таксама апрацавала сцэнарый першай выстаўкі, матэрыялы для якой даставілі ПЗГС у Гайнаўцы і ГС у Белавежы. Экспанаты, якія захоўваліся ў Нараўцы і Гайнаўцы, былі перанесены таксама ў атрыманы будынак.

12 сакавіка 1966 года адбылося афіцыяльнае адкрыццё музея. Ад сакавіка 1967 г. музей атрымаў штатнага работніка з ГП БГКТ і стаў даступным для наведвальнікаў.

Да 1970 г. музей павялічыў свае зборы з 269 экспанатаў да звыш 900. На выстаўцы знаходзіцца каля 260 экспанатаў, а астатнія з прычыны недахопу месца захоўваюцца на гары музейнага будынка.

Музей паказвае наступныя аддзелы народнай культуры:

1) апрацоўка зямлі,
2) ўборка раслiннай сыравіны і апрацоўка раслiннай і жывёльнай сыравіны;
3) падрыхтоўка і захоўванне ежы;
4) вырабы калеснікоў і транспарт;
5) вырабы ганчароў;
6) вырабы кавалёў;
7) пляцёнкі з саломы, вікліны і кары;
8) прадметы, неабходныя для збірання ягад, грыбоў і г.д., а таксама ўстройствы для лоўлі звяроў і птушак;
9) лоўля рыбы — гэты аддзел слаба прадстаўлены на выстаўцы з прычы-

Працяг на стар. 4



**Планты ў Кракаве. Тут Ульянавы сустрэліся з Багоцкім. Чытайце на стар. 3. «Ленін у Польшчы».**

## ШКОЛЬНІЦТВА ДЛЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ

Ва ўмовах народнай улады былі арганізаваны ў Польшчы шматлікія школы, у якіх моладзь розных груп насельніцтва няпольскай нацыянальнасці вывучае родную мову. У апошнія гады навучанне роднай мовы ў школах адбывалася для дзяцей беларускай, украінскай, літоўскай, славацкай, яўрэйскай і рускай нацыянальнасцей, а таксама для дзяцей палітычных эмігрантаў з Грэцыі. Адначасова спынілі сваю дзейнасць школы з нямецкай мовай навучання, што было вынікам выезду з Польшчы пераважнай большасці нямецкага насельніцтва.

Апублікаваны нядаўна Галоўным Статыстычным Упраўленнем новы «Rocznik Statystyczny Szkolnictwa 1968/69» прыносіць цікавыя звесткі аб становішчы школьніцтва для нацыянальных меншасцей у Польшчы. Згодна з гэтымі данымі, у 1968/69 школьным годзе навучаннем роднай мовы ў пачатковых і сярэдніх агульнаадукацыйных школах усіх тыпаў ахоплена было 16,8 тысяч моладзі ўсіх груп няпольскай нацыянальнасці. Цікава адзначыць, што ўпамянутая **агульная** колькасць вучняў праяўляла на працягу апошніх гадоў значную стабілізацыю.

Неаднародныя тэндэнцыі наглядаліся ў гэты час у працэсе навучання роднай мовы для моладзі паасобных груп няпольскага насельніцтва. Сведчаць аб гэтым наступныя даныя, якія паказваюць колькасць вучняў, ахопленых навучаннем роднай мовы ва ўсіх тыпах пачатковых і сярэдніх агульнаадукацыйных школ, г.зн. у школах з роднай мовай навучання і ў школах, дзе яна выкладаецца як прадмет:

Колькасць вучняў, якія вывучалі родную мову ў пачатковых і сярэдніх школах.

| Мова | 1965/66 | 1968/69 |
|---|---|---|
| Агулам | 16689 | 16756 |
| у тым ліку: | | |
| Беларуская | 11649 | 12283 |
| Украінская | 2418 | 2108 |
| Літоўская | 882 | 869 |
| Грэцкая і македонская | 573 | 773 |
| Славацкая | 471 | 473 |
| Яўрэйская | 605 | 213 |
| Руская | 91 | 37 |

Працяг на стар. 4

## БГКТ ХРОНІКА

● 26 лютага ў 14-ую гадавіну заснавання беларускага таварыства адбылося пасяджэнне прэзідыума Галоўнага праўлення з удзелам старшынь аддзелаў, галоўнага рэдактара «Нівы» і сакратароў аддзелаў з Гайнаўкі і Бельска. Пашыраны прэзідыум прыняў праграму падрыхтоўкі і адзначэння 15-ай гадавіны БГКТ. (Праграму гэту змесцім у «Ніве»). Пасля была зроблена ацэнка дзейнасці гайнаўскага і бельскага аддзелаў. У сувязі з тым, што інструктар ГП на гарадскі аддзел у Беластоку адыходзіць да іншай працы, прэзідыум прыняў на яго месца Зосю Стаськевіч, якая распачне працу ад 15-га сакавіка.

● 24 лютага ў памяшканні беларускага таварыства адбылося спатканне кіраўніцтва ГП з кіраўніцтвам ваяводскай камісіі прафесіянальных саюзаў у асобах старшыні камісіі Дзмітра Карповіча і сакратароў Браніслава Ігнасяка і Леакадзіі Зіневіч. Абмеркавана было супрацоўніцтва абедзвюх арганізацый.

● 21 лютага, згодна з планам працы варшаўскага аддзела ў Доме савецкай культуры, намеснік старшыні Ваяводскай камісіі гаспадарчага планавання ў Беластоку Эдвард Бакун расказваў аб мерапрыемствах, спрыяючых развіццю Беласточчыны, і аб кадравых патрэбах. Гэта выклікала вялікае зацікаўленне з боку студэнтаў варшаўскіх вышэйшых школ, якія паходзяць з Беласточчыны. У гэтым спатканні ўзяў таксама ўдзел сакратар ГП Янка Зенюк.

● Па ініцыятыве гуртка БГКТ у Пяньках (старшыня гуртка Янка Азябла) 24 лютага былі паказаны два савецкія фільмы кінаперасоўкай ГП. Перад фільмамі выступіў сакратар беластоцкага павятовага праўлення БГКТ Янка Цялушэцкі і расказаў аб працы нашага таварыства.

З нагоды 52-ой гадавіны Савецкай Арміі 18 лютага ў Махнатым, а 21 лютага ў Чыжах адбыліся вечарыны з удзелам савецкіх афіцэраў, павятовых партыйных улад і павятовага праўлення БГКТ у Гайнаўцы. Пасля афіцыйнай часткі былі паказаны савецкія фільмы.

(Працяг на стар. 4)

 

# ХОДЗЯЧЫ ПА ВЫСТАЎЦЫ



Фрагмент экспазіцыі дываноў.

Прахаджваюся сярод экспанатаў народнага мастацтва. Якое тут багацце гатункаў, узораў і колераў! 150 экспанатаў, вынесеных са склада Акруговага беластоцкага музея ў ратушы. Паразвешаны яны на сценах, парасстаўляны на жоўтай паркетнай падлозе — дываны, народныя ўборы, вышываныя ручнікі, посцілкі, макаткі, сундукі, гладышкі, калядныя звёзды, велікодныя маляванкі і пісанкі, маты, саламяныя кашы, каляровыя павукі і кветкі, разьба па дрэву — найчасцей барадатыя святыя, калаўроты, міскі, лыжкі, кубкі...

Вялікая выстаўка народнага мастацтва Беласточчыны ў беластоцкай ратушы з'яўляецца выстаўкай 25-годдзя. У мастацтве гэтым выяўляецца багацце і разнароднасць беластоцкай зямлі. Такім багаццем не пахваліцца ніякі іншы раён краіны.

Вельмі цікава прадстаўляецца мастацтва беларускіх вёсак Беласточчыны. Напэўна буду аб'ектыўнай, калі скажу, што беларуская народная творчасць прадстаўляецца на выстаўцы найбагацей і найцікавей. Экспанаты гэтыя выкананы з найбольшым размахам і фантазіяй. Двухасноўвавыя дываны на розныя ўзоры, кераміка, саламяныя вырабы, разьба па дрэву, вышыўка — усё гэта непаўторная здабыча спрытных рук жанчын з беларускіх вёсак. Гэтыя вырабы маюць велізарную матэрыяльную вартасць. Захаваныя, праляжаць сотні гадоў і сведчыць будуць пра багатую духоўную культуру Беласточчыны.



Куфар з Гайнаўскага павета і калаўротак з Крушынян на Сакольшчыне.

А ўжо зараз славяць нашу зямлю ў краіне і за мяжой.

Для зацікаўленых падаем да ведама, што выстаўкі народнага мастацтва будуць арганізаваны ў кожным павеце. Дадуць яны вобраз мастацтва ў паасобных паветах Беласточчыны.

В. Леўчук

Фота В. Волкаў

Саламяныя каробкі з Гайнаўскага павета.

# ЛЕНІН У ПОЛЬШЧЫ

Ленін прыехаў у Кракаў 23 чэрвеня 1912 года. Тут яго чакаў Сергіюш Багоцкі. Вучыўся ён тады на медыцынскім факультэце Ягелонскага ўніверсітэта, і сустрэча назначалася побач у скверы.

Вось як яна адбылася паводле ўспамінаў Багоцкага: «...У пачатку чэрвеня 1912 года, вярнуўшыся аднойчы з універсітэцкай клінікі, я ўбачыў у сябе на стале ліст з Парыжа ад рускай бальшавічкі Людмілы Мікалаеўны Сталь, з якой я вёў ажыўленую перапіску. Быў я тады сакратаром кракаўскага Саюза дапамогі палітычным вязням, а Людміла Мікалаеўна ўзначальвала такую ж самую арганізацыю ў Парыжы. У лісце паведамляла яна, што ў Кракаў прыедзе неўзабаве Уладзімір Ільіч Ульянаў з жонкай, і прасіла, каб у першым перыядзе дапамог ім уладкавацца ў чужым горадзе. Сустрэча мела адбыцца на Плянтах, насупраць галоўнага будынка універсітэта. Выглядаючы Леніна, якога не ведаў асабіста, я ўважна прыглядаўся да прахожых. Уяўляў я яго, невядома чаму, высокім, шыракаплечым мужчынам з чорнай барадой.




Прайшло каля паўгадзіны. Суседнія лаўкі памалу запоўніліся. На адну з бліжэйшых села немаладая ўжо пара — мужчына ў кацялку і сціпла апранутая жанчына. Я не звярнуў на іх увагі. Пачынаючы нервавацца, я нецярпліва хадзіў узад і ўперад. Раптам жанчына ўстала, падышла да мяне і няўпэўнена спытала:

— Прабачце, вы, відаць, некага чакаеце? Ці не вы Багоцкі?

— Значыць, вы Ульянавы! — усклікнуў я. — Мы ўжо даўно чакаем адзін другога седзячы амаль побач...

Мы засмяяліся і пацiснулі адзін другому рукі».

Некалькі дзён Ленін з Крупскай жылі ў гасцініцы «Вікторыя» (ужо не існуе). У тым часе Багоцкі шукаў ім кватэру. У перанаселеным Кракаве не была гэта лёгкая справа. Улічваючы не найлепшае матэрыяльнае становішча Ульянавых, кватэра павінна быць таннай.

«Багоцкі параіў нам пасяліцца ў кракаўскім прадмесці, так званым Звяжынцы, дзе мы і пасяліліся... — успамінае Крупская. — Гразь там была неверагодная, але блізка была рака Вісла, дзе можна было цудоўна купацца, і кіламетраў за пяць «Вольскі ляс» — велізарны цудоўны лес, куды мы часценька ездзілі з Ільічом на веласіпедах.»



Ягелонскі універсітэт перад Плянтамі (злева) і дом Ульянавых у Звяжынцу (цяпер вуліца Крулёвай Ядвігі 42).



Вольскі лес — улюбёнае месца адпачынку Леніна і Крупскай.

Што і Леніну спадабаўся Кракаў, сведчыць яго першы ліст, высланы з Кракава маці:

«Гэтага года панесла мяне з Парыжа вельмі далёка — у Кракаў. Амаль Расія! І яўрэі нагадваюць рускіх і да рускай граніцы 8 вёрст (чыгункай з граніцы гадзін 2, з Варшавы — 9 гадзін), бабы босыя, у яркіх спадніцах — зусім як у Расіі...»

Крупская ўспамінае: «Кракаўская эміграцыя не была падобна на парыжскую ці швейцарскую. Па сутнасці справы гэта была паўэміграцыя. У Кракаве мы амаль цалкам жылі інтарэсамі рускай работы. Сувязі з Расіяй устанавіліся вельмі хутка, самыя цесныя. Газеты з Піцера прыходзілі на трэці дзень. У Расіі пачала ў гэты час выходзіць «Праўда»... З «Праўдой» наладжаны былі самыя цесныя адносіны. Ледзь не штодзённа пісаў Ільіч у «Праўду» артыкулы, пасылаў пісьмы, сачыў за работай «Праўды», вербаваў для яе супрацоўнікаў... Ні з Парыжа, ні са Швейцарыі было б немагчыма наладзіць такое планамернае супрацоўніцтва. Перапіска з Расіяй была таксама хутка наладжана. Кракаўскія таварышы навучылі нас, як найбольш канспіратыўна наладзіць гэтую справу. Важна, каб на пісьмах не было замежнага штэмпеля, тады на іх руская паліцыя звяртала менш увагі. Сялянкі, якія прыязджалі на базар з Расіі, за невялікую плату бралі нашы пісьмы і кідалі іх у скрынку ўжо ў Расіі...»

На схіле лета Ульянавы перабраліся ў кватэру на вуліцы Любамірскага 47 (цяпер — Фрыча Маджэўскага 49). Новую кватэру, якая была паблізу чыгуначнага вакзала, лягчэй маглі знайсці пасланцы з Расіі.

«Два невялікія чысценькія пакоі абсталяваны былі з такой жа самай прастатой, як і ў Звяжынцу, — піша Багоцкі. — Усё тут насіла сляды напружанай працы. На сталах і вокнах ляжалі кучы кніг, газет і рукапісаў. На першы погляд складала гэта ўражанне беспарадку. У сапраўднасці аднак усё было разложана ў толькі Уладзіміру Ільічу вядомым парадку. Заўсёды знаходзіў ён адразу патрэбную яму кнігу ці артыкул».

У Кракаве Ленін працаваў шмат і напружана. Тут ён сканцэнтраваў у сваіх руках усе ніці рэвалюцыйнай дзейнасці, якая мела адну мэту — узняць рабочы клас Расіі на новы штурм царызму. У гэтай рабоце дзейсную дапамогу аказвалі польскія таварышы Якуб Ганецкі, Фелікс Дзяржынскі, Аляксандр Малецкі, Сергіюш Багоцкі, Юльян Мархлеўскі, Вітальд Тамаровіч, Казімеж Чапінскі і многія іншыя.

На працягу двух гадоў, праведзеных Леніным у Польшчы, тут адбыліся дзве нарады з партыйнымі работнікамі, тры нарады з членамі ЦК партыі, тры пасяджэнні Цэнтральнага Камітэта, нарада з прадстаўнікамі бальшавіцкай фракцыі Дзяржаўнай думы.

Шырэй аб гэтым у наступным нумары. (ха)

### Беларуская песня 1970

## ГАРАДОК З НОВЫМІ ПЕСНЯМІ

Гарадок прымае ўдзел у конкурсе на беларускую песню 1970 г. Спявае славутае гарадоцкае трыё ў складзе: Ніна Цыванюк — I сапрана, Ніна Мушынская — II сапрана, Саша Яроцкая — альт. Песні іх, нікім яшчэ не спяваныя, задушэўныя і разліўныя: «Ой, шумяць лясы зялёныя» і «Ой, ты Нёман родны».

Дуэт з Гарадка — Лена Кот і Ірэна Паўлючук выконвае прыгожую лірычную песню «Явар і Каліна». (вл)

# ГАРАДОЦКІЯ ЧАСТУШКІ

### НОВАЯ «ЛЯВОНІХА»

А Лявоніху Лявон палюбіў,
Чаравічкі ёй з імпорту купіў.
Лявоніха чаравічкі прыбрала
І з міленькім вывівае казака.

Ганарыцца Лявон жонкаю,
Што кашульку мае тонкую.
Тонкую, як снег, бялюсеньку —
На нядзельку, на кажнюсеньку.

Лявоніха, засучыўшы рукавы,
Час ад часу заглядае да пралькі.
Варыць есці, чысціць ў хаце дываны
А хто робіць? Робяць гэта машыны.

Хадзі, хадзі, хадзі хуценька сюды,
Моцна, моцна пацалуй і абымі.
Няхай ведаюць усе ў БТСК-а,
Што дала вёсцы механізацыя.

Лявоніха ўжо не жне свой загон,
Цэла лета, як калісьці сярпом.
Жніво сёння — гэта проста гульня,
Бо жняярка жне і вяжа сама.

Чуць зара, Лявон не цягне касу,
Бо касілка лёгка рэжа траву.
І ад поўначы не б'е ён цапом,
Цяпер гэта вельмі добра робіць ПОМ.

Добра жыць Лявонісе з Леваном,
Усё талкова, усё ў парадку кругом.
Трактарыст раллю хуценька ўзарэ —
Ано пастаў яму літроўку на стале.

Пытаецца Лявоніха Левана:.
«Гэта праўда ёсць, ці толькі мана,
Што прасілі наш жаночы гурток,
Каб прыехаць пасяваць у Беласток?»

Лявоніха ўжо даведалася:
Гэта просьба ёсць ад Янкі Зенюка.
І сказала, што прасіў таксама нас
Наш галоўны старшыня Міхась.

Удзячны мы для старшыні для Зенюка,
Просім ласкі, прымайце ў БТСК-а.
Шчыра дзякуем ад жыхароў Гарадка
І ад нашага жаночага гуртка.

Ніна Мушынская



 

Пачатак на стар. 1

## ШКОЛЬНІЦТВА ДЛЯ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ

Гэтыя даныя паказваюць, што колькасць літоўскай і славацкай моладзі, якая вывучала родную мову ў апошнія гады амаль не змянілася. Значна зменшылася затое колькасць дзяцей, якія вывучалі ўкраінскую, яўрэйскую і рускую мовы. Адначасова палепшыўся стан навучання сваёй мовы сярод моладзі грэцкіх эмігрантаў.

**На фоне ўсяго нацыянальнага школьніцтва ў Польшчы параўнальна найлепшыя вынікі наглядаюцца ў галіне навучання беларускай мовы. У 1965/66 — 1968/69 г.г. колькасць вучняў, якія вывучалі беларускую мову, праяўляла сістэматычны рост і дасягнула 12,3 тысяч. Адначасова пастаянна павялічваўся ўдзел беларускай моладзі ў агульнай колькасці вучняў няпольскай нацыянальнасці, якія вывучалі родную мову ў школах. Калі ў 1960/61 годзе складаў ён 65%, то ў 1965/66 годзе ўзрос да 70%, а ў 1968/69 годзе дасягнуў 73%. Інакш кажучы, колькасць вучняў, якія вывучаюць беларускую мову, амаль у тры разы перавышае лік дзяцей астатніх нацыянальных меншасцей, ахопленых навучаннем роднай мовы.**

Разнастайныя тэндэнцыі, якія наглядаюцца ў школьніцтве паасобных груп насельніцтва няпольскай нацыянальнасці, з'яўляюцца вынікам разнастайных прычын у паасобных меншасных асяроддзях. Значнае змяншэнне стану дзяцей, якія вывучалі яўрэйскую мову, вынікае з эміграцыі яўрэйскага насельніцтва з Польшчы, а змяншэнне ліку моладзі, якая вывучала ўкраінскую мову, з'яўляецца вынікам цяжкасцей, выкліканых рассеяннем украінскага насельніцтва па многіх ваяводствах, што вельмі ўскладняе арганізаванне камплектаў вучняў, зацікаўленых вывучэннем сваёй мовы.

Устабілізаванае становішча ў галіне літоўскага школьніцтва і развіццё беларускага школьніцтва з'яўляецца вынікам раду прычын, сярод якіх важнае значэнне мае параўнальна значная стабільнасць і камплектнасць беларускага і літоўскага асяроддзяў. Вялікую ролю ў гэтай справе адыгрывае дзейнасць улад Беластоцкага ваяводства, накіраваная на стварэнне атмасферы гарманійнага сужыцця ўсіх нацыянальных груп насельніцтва Беласточчыны, а таксама канкрэтная дапамога з боку ваяводскай і павятовай школьнай адміністрацыі, якая выражаецца ў забеспячэнні ўмоў, неабходных для паспяховага ажыццяўлення працэсу навучання роднай мовы.

**Юры Туронак**

Пачатак на стар. 1

## ХРОНІКА БГКТ

• Камісія культуры ГП 21 лютага на сваім пасяджэнні абмяркоўвала рэпертуарныя справы, прысвечаныя 100-ай гадавіне Леніна. Гаварылася таксама аб конкурсе на беларускую песню, які аб'явіла ГП БГКТ. У гэтых справах было вырашана звярнуцца да аддзелаў культуры за дапамогай.

• 28 лютага гарадскі аддзел БГКТ у Беластоку наладзіў цікавую вечарыну для студэнтаў вышэйшых школ Беластока пад загалоўкам «Пазнаёмімся».**(мх)**




Аб дзейнасці Аб'яднанага людовага страніцтва — ЗСЛь — на Беласточчыне пісалі мы ў лістападзе мінулага года з нагоды 20-тай гадавіны ўз'яднання пасляваеннага людовага руху. Сёння ёсць новая нагода, каб яшчэ раз звярнуць увагу на сялян — членаў ЗСЛь, якія жывуць і дзейнічаюць у Беластоцкім ваяводстве. Выбраныя імі дэлегаты 14 сакавіка г.г. сустрэнуцца на IX ваяводскім з'ездзе сваёй партыі, будуць разглядаць і вызначаць сваю адказнасць за найбольш істотныя справы сучаснай беластоцкай вёскі.

Апошні з'езд адбыўся ў Беластоку чатыры гады таму назад. За гэты час рады беластоцкай арганізацыі ЗСЛь павялічыліся на звыш 6.500 членаў. Многа. Значыць, праграма страніцтва, метады яго дзейнасці, яго імкненні супадаюць з жыццёвымі патрэбамі беластоцкіх хлебаробаў.

Ваяводскае кіраўніцтва ЗСЛь з прыемнасцю адзначае, што найбольш шматзначнае пашырэнне ўплываў страніцтва наглядалася ў Сакольскім, Гайнаўскім, Сямяцічкім, Бельскім і Лапскім паветах. У гэтых раёнах ваяводства ні да вайны, ні пасля яе людовы рух не меў закаранелых, багатых традыцый. Актыўная, паслядоўная, накіраваная на сацыялістычныя пераўтварэнні дзейнасць ЗСЛь сталася тэтым заахвочваючым, прыцягваючым магнітам.

Аб'яднанае людовае страніцтва не толькі сваім членам паказвае, што шчасліва і багата можна жыць і ў вёсцы. Можна жыць, толькі трэба ўмець па-сучаснаму наладзіць гэтае жыццё.

Таму ў сваёй дзейнасці страніцтва абапіраецца цяпер на лозунг: **член ЗСЛь — добры гаспадар, добры гаспадар — член ЗСЛь.**

Старшыня ваяводскага камітэта ЗСЛь інж. Гоздэк у час прэс-канферэнцыі, якая адбылася перад з'ездам, запэўніваў усіх журналістаў, што гэты лозунг не застаецца толькі папяровай цацкай, што ён не толькі і не перш за ўсё адлюстроўвае высакародныя пажаданні і мары ваяводскага кіраўніцтва. — Гэты лозунг, — гаварыў ён, — сёння жыццёвая штодзённая практыка. І спасылаўся на статыстыку, указваў канкрэтныя лікі, называў прозвішчы сялян.

Член ЗСЛь Уладзімір Галёнка з вёскі Пасечнікі ў Гайнаўскім павеце, член ЗСЛь Язэп Града з вёскі Спешын у Бельскім павеце, член ЗСЛь Рыгор Пятроўскі з Орлі, член ЗСЛь Антон Ліпскі з Новага Стойла ў Дуброўскім павеце. Усе яны і многа, вельмі многа іх партыйных сяброў — гэта выдатныя гаспадары. Найбольш эфектыўна, бо ўласным штодзённым прыкладам паказваюць, як трэба жыць і гаспадарыць ва ўмовах Народнай Польшчы.

У Бельскім павеце члены ЗСЛь на 35 кг НПК больш ад сваіх суседзяў прымяняюць штучных угнаенняў на кожны гектар поля, члены ЗСЛь у Лапскім павеце на 2,5 цэнтнера маюць вышэйшы ўраджай.

Вось дзе перш за ўсё праяўляецца грамадская актыўнасць членаў ЗСЛь. А варта ведаць, што гурткі гэтага страніцтва дзейнічаюць у 1300 вёсках ваяводства.

Вясковыя арганізацыі ЗСЛь са шчырым сэрцам, з адкрытымі рукамі і з канкрэтнымі прапановамі выходзяць насустрач усім жыццёвым патрэбам сваіх вёсак. Супольна з членамі Польскай аб'яднанай рабочай партыі стараюцца паспяхова вырашаць найбольш неадкладныя справы свайго асяроддзя. Хай прыкладам тут будзе супольная, калектыўная пакупка штучных угнаенняў. Так робяць у вёсках Ольша (цікавая гэта вёска: на 32 гаспадары членамі ЗСЛь з'яўляецца 31, пра яе справы напішам асобна) і ў вёсцы Звярынец Вялікі ў Дуброўскім павеце, таксама ў вёсцы Стэльмахова ў Бельскім павеце, ды ў многіх іншых вёсках.

ЗСЛь змагаецца за сацыялістычныя пераўтварэнні ў нашых вёсках. А гэта абазначае, што яно хоча, каб сялянам лепш, выгадней і лягчэй жылося. І таму праграма страніцтва знаходзіць такі жывы водгук у вёсках.

**В. Рудчык**

**Пазнай сваю ваколіцу**

## УПЛЫВЫ ПОЛЬСКАЙ МОВЫ

Хачу выказаць некалькі сваіх заўваг адносна ўплываў польскай мовы на мову беларускіх людзей дыялекту акаюча-дзекаючага, тэта значыць, у паветах: Беласток, Саколка, Дуброва.

Напрыклад, у Багноўцы сказалі: «У тваём маторы нідобры сільнік». Польскі назоўнік «сільнік», асіміляваны беластоцкай беларушчынай, служыць паняццю састаўной часткі матацыкла. Назоўнікі, якія з'яўляюцца зместам новых цывілізацыйна-тэхнічных з'яў, цалкам пераймаюцца з польскай мовы: спаварка, жнівярка, касярка, снапавянзалка, развертак, распрысківач, капачка, і г.д. Канчаткі склонаў і вымаўленне абеларушчаны. Напрыклад: спаварка, спаваркі, спаварцы, спаваркаю, (аб) спаварцы. Разам з тым характэрны ў польскай мове пастаянны акцэнт на перадапошняй сілабе, стаецца рухомым. Сказалі: «Давай сюды таго распрысківача!» Акцэнт паў на апошнюю галосную, — **а.**

Адначасова наглядаецца болей грунтоўная асіміляцыя тых польскіх назоўнікаў, запазычаных у нашу беларушчыну, якія ўжо доўга ўжываюцца ў гутаркавай мове. Напрыклад, назоўнік «азотняк» з тыповым польшчыне акцэнтам, у даным выпадку на — **о** —, вымаўляецца таксама, як «азатняк», з акцэнтам, перасунутым на ётавае — **я;** вымаўляецца таксама як «азотнік». Карэнна беларуская канцоўка — **нік** спрыяе пазбаўленню назоўніка яго чужамоўнага запаху. Стапляецца ён у гарне нашай мовы. Далейшыя прыклады: «амоняк» і «амонік», «вапняк» і вапнік», «мочняк» і «мочнік». Часта, усё яшчэ часцей, вымаўляюцца, як «аманяк», «мачняк» і т.п.

Другой па колькасці групай запазычанняў з польскай мовы ў беларушчыну на ўказанай тэрыторыі з'яўляюцца прыметнікі. Іншая справа, што прыметнікавыя запазычанні ў асноўным старэйшыя ад назоўнікавых. Аднак жа карыстанне імі выклікана не столькі патрэбамі быту, колькі імкненнем да аздобнасці размовы. Яны не пашыраюць свету чалавечай адзінкі. Яны з'яўляюцца ўсяго толькі як бы таварам раскошы, замяняюць тое, што ўжо ёсць. Не ўзбагачаюць мовы, не развіваюць яе паняццевых тонкасцей, стаюцца ўсяго толькі росчынаю кіслаты яе, ялавізны. На вяселлі элегантныя беларускі кажуць да сябе: «Маеш ладну сукенку», «Іван пшыстойны», «Ён вельмі мондры». Польскія прыметнікі: «ладна», «пшыстойны», «мондры» маюць свае аналогіі: «прыгожая», «харошая», «прыгожы», «зграбны», «павабны» «разумны», «нядурны».

Яшчэ некалькі слоў аб надта старых пазыках дзеясловўных, напрыклад, неазначальны «мэнчыць». Асабовыя канчаткі ідэнтычныя, як у польскай мове, за выключэннем канчаткаў з польскімі насавымі галоснымі. У адзіночным ліку: мэнчу, мэнчыш, мэнчыць; множны лік: мэнчым, мэнчыце, мэнчаць. Наступныя прыклады: дрэнчыць, нэндзіць і т.п.

Зацікаўленне з'явай запазычанняў мае значэнне ў выпрацоўванні спелых адносін да заўсёды актуальнага пытання культуры роднай мовы.

**С. Яновіч**




**«Ля межаў Парланды»**

Прачытаўшы ў «Ніве» № 8 ((730) артыкул «Ля межаў Парланды» пад рубрыкай «У пошуках шчасця», я цвёрда рашыў выказаць свае погляды і заўвагі наконт твораў Рыгора Паўлюка. Гэты замер я меў здаўна.

Мне здаецца, што Рыгор Паўлюк здольны пісьменнік, але пісьменніцтва ў яго жыцці з'яўляецца другарадным заняткам. Шкада, бо яго творы, на мой погляд, усе высока мастацкія, бясспрэчна арыгінальныя, з адценкам пагоднага суму, цвярозай развагі. Найбольш захапляе ў іх тое, што з пачатку да канца яны насычаны паэзіяй. Рэдка сустрэнеш гэткае ў яловай прозе.

Не знаю, як хто з чытачоў «Нівы», але я чытаю творы Рыгора Паўлюка, як кажуць «адным душком», а прачытаная рэч застаецца ў маёй свядомасці і памяці, як штосьці патрэбнае і вартаснае.

Таму лічу, што недарэчным было б з боку чытача не памятаць аб гэтым творцы захапляючых твораў, не аддаць яму шчырай удзячнасці, не пажадаць яму многіх год як найлепшага жыцця і поспехаў у літаратурнай працы.

Дык прашу шаноўную рэдакцыю перадаць шаноўнаму Рыгору Паўлюку (хоць думаю сам сабе, што такі ён «Рыгор Паўлюк», як я «Кузьма Дзямян»), аўтару «Ля межаў Парланды», маю шчырую падзяку.

**Міх. Красоўскі**

(Працяг са стар. 1)

## ІНФАРМАЦЫЯ ГП БГКТ

ны недахопу месца, частка экспанатаў знаходзіцца на складзе;

10) прадметы, неабходныя для апрацоўкі валакна, для пражы і ткацтва;

11) ткацкія вырабы;

12) вопратка.

Акрамя гэтага на складзе, які знаходзіцца на гары будынка, ёсць прадметы, дзякуючы якім можна было б адкрыць наступныя аддзелы:

1) хатняе абсталяванне;

2) пчалярства;

3) вырабы бандароў;

4) апрацоўка драўніны і вырабы сталяроў;

5) арыгінальныя машыны, зробленыя вясковымі рамеснікамі, напрыклад, драўляны керат і г.д.;

6) народная разьба па дрэву;

7) розныя помнікі народнага мастацтва, напрыклад, іконы і г.д...

Каля 80% экспанатаў музей атрымаў у падарунку ад насельніцтва. Музей пры дапамозе ГП БГКТ і далей інтэнсіўна збірае экспанаты, якія папоўнілі б існуючыя аддзелы, або дазволілі стварыць новыя.

З 1969 г. экспанаты знаходзяцца пад пастаянным доглядам, дзякуючы дапамозе ваяводскага кансерватара помнікаў, які закупіў патрэбныя сродкі для захоўвання экспанатаў. Аднак умовы для кансервацыйных прац у музеі надзвычай прымітыўныя. Таму працы праводзяцца толькі ў такой ступені, на якую дазваляюць гэтыя ўмовы.

Музей вядзе інвентарныя кнігі, прадугледжаныя ўставам аб музеях (за выключэннем картачак — першакрыніц аб помніках, якія б складаліся з фотаздымка альбо малюнка помніка і яго дакладнага апісання, сцвярджэння стану і праведзеных кансервацыйных прац; аднак і гэтыя картачкі — характарыстыкі неўзабаве будуць заведзены).

Музей арганізаваў дзве рухомыя выстаўкі ў Гайнаўцы, робіць розныя даклады, праводзіць лекцыі для школьнікаў.

Штогод музей наведвае каля 8 тысяч чалавек, у тым ліку 500—600 чалавек з заграніцы.

У сувязі з цяжкімі ўмовамі, у якіх знаходзіцца музей, у сувязі з тым, што цяперашняе памяшканне не дазваляе належным чынам ратаваць помнікі перад знішчэннем, ГП БГКТ (беручы пад увагу планаванае перанясенне Пушчанскага музея ў Белавежы ў новы будынак) пачаў старацца, каб стары будынак Пушчанскага музея быў перададзены Музею БГКТ. Паколькі будынак Пушчанскага музея можа быць перададзены нам толькі на нейкі час, ГП БГКТ пры дапамозе цэнтральных і ваяводскіх улад прадугледжвае пабудаваць альбо прыняць адпаведны для музея будынак.

Апрача спраў музейных, справам, якія датычаць духоўнай культуры, ГП БГКТ таксама прысвяціў шмат увагі. Асабліва многа матэрыялаў сабрана ў галіне народных песень.

З усіх сабраных песень 125 было апрацавана Эдвардам Цюкшам з мэтай апублікавання іх. Шмат песень, прымавак, апавяданняў і іншых форм слоўнага фальклору было апублікавана ў «Ніве», «Календарах» і іншых выданнях ГП БГКТ. Студэнты Інстытута рускай, украінскай і беларускай філалогіі ў час прабывання ў лагеры, арганізаваным выдзяловым праўленнем ЗМВ у 1969 годзе, пад апекай мгр. М. Врублеўскага запісалі на Беласточчыне 700 розных тэкстаў — у асноўным песні, апавяданні і анекдоты. Сабраны матэрыял цяпер апрацоўваецца. ГП БГКТ, аналізуючы вынікі сваёй дзейнасці ў галіне даследаванняў, ахоўвання помнікаў і карыстання здабычамі народнай культуры, прыйшоў да вываду, што калі даследаванні матэрыяльнай культуры атрымалі належны кірунак і праводзяцца музеем, то ў даследаваннях духоўнай культуры не былі вызначаны метады і формы, а таксама не былі аб'яднаны даследаванні розных людзей. Каб аб'яднаць пошукі розных людзей і вызначыць новыя магчымасці і задачы ў гэтым напрамку, прэзідыум ГП БГКТ 30.X.1969 г. стварыў этнаграфічную камісію. Камісія вызначыла асноўныя напрамкі сваёй працы:

1) надалей інтэнсіўна збіраць экспанаты для музея;

2) прыняць і дастасаваць да патрэб нашага музея новае памяшканне, а таксама апрацаваць сцэнарый выстаўкі і г.д.

3) збіраць і апрацоўваць слоўны фальклор (запісваць яго на плёнку і навукова апрацоўваць пры дапамозе Інстытута рускай, украінскай і беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта, а таксама падрыхтоўваць яго для самадзейных калектываў);

4) праводзіць навуковыя даследаванні якія б датычылі звычаяў і народных вераванняў (збіраць першакрыніцы, навукова апрацоўваць іх і публікаваць вынікі);

5) рэгістраваць нерухомыя помнікі (напрыклад, будовы і г.д.) і стварыць фатаграфічную дакументацыю гэтых помнікаў;

# ПОЛЫМЯ

У лютаўскім нумары прозу прадстаўляюць Раман Сабаленка, Віктар Карамазаў, Алесь Калеснік, Валянціна Рудава і Уладзімір Аляхновіч; паэзію — Максім Лужанін і Пятро Прыходзька.

Аматарам прыроды прапануем нарыс Алеся Масарэнкі «На бабровых тонях», а ўсім, хто цікавіцца новым у навуцы — артыкул Уладзіміра Саўчанкі «Аблічча сучаснай генетыкі».

Актуальнымі таксама з'яўляюцца публікацыі Івана Івашненка («Ленінскія прынцыпы гаспадарання») і Юльяна Пшыркова («Ленінская нацыянальная палітыка і развіццё беларускай літаратуры»). Апошняя асабліва прыдатнай можа быць нашым настаўнікам. Ім жа перш за ўсё адрасуем і багаты раздзел «Сярод кніг». Друкуюцца тут рэцэнзіі на выбраныя творы Янкі Скрыгана і Уладзіміра Хадыкі, на новы зборнік Уладзіміра Караткевіча «Мая Іліяда» і Васіля Зуёнка «Крутаяр». У гэтым жа раздзеле аматары беларускага мастацтва знойдуць рэцэнзію на кнігу Ю. Чурко «Беларускі сцэнічны танец», а чытачы, якія цікавяцца мінулым — рэцэнзію на зборнік прадмоў, сказанняў, пасляслоўяў Ф. Скарыны (якія былі вядомы толькі часткова ў некаторых хрэстаматыйных выданнях). Тым, хто цікавіцца рэлігіязнаўствам, прапануем рэцэнзію на кнігу В. Молакава «Философия современного православия», а мовазнаўцам — рэцэнзіі на даследаванне Г. Юрчанкі «Народная сінаніміка» і на манаграфію А. Антановіча «Белорусские тексты, писанные арабским письмом, и их графико-орфографическая система» (апошняя выдадзена ў Вільнюсе).

Цікавы таксама раздзел «Старонкі нашай гісторыі», у якім публікуюцца артыкулы пра вядомага памочніка Леніна, ураджэнца Беларусі, Уладзіміра Бонч-Бруевіча і рэвалюцыянерку Веру Слуцкую.

**Ювэ**

**Памерлі**

## ЭДВАРД ЦЮКША

**22 лютага г.г. памёр у Лодзі вядомы арганізатар і дырыжор калектываў мандаліністаў Польскага радыё Эдвард Цюкша. Быў ён папулярызатарам і беларускай народнай песні. Не раз чулі мы іх па радыё ў выкананні яго калектыву. А трывалым сведчаннем зацікаўлення Э. Цюкшы беларускай культурай застанецца пласцінка народных беларускіх песень, якія выканаў Міхась Забэйда ў суправаджэнні мандаліністаў Цюкшы, выдадзеная ГП БГКТ.**

**Э. Цюкша апрацоўваў для ГП БГКТ шмат беларускіх народных песень з Беласточчыны.**

## АРСЕНЬ ЗІНЕВІЧ

**Памёр шматгадовы настаўнік агульнаадукацыйнага ліцэя ў Міхалове Арсень Зіневіч. Навучаў ён беларускай мове і быў у гэтай галіне заслужаным педагогам.**

## ПЛЮЦІЦКІЯ АМАТАРЫ ПРЫРОДЫ

Хораша ў Плюцічах не толькі летам, а нават зімою, калі снягі завеялі ўсе гумны і двары. А вясною, як толькі зашчабеча ластаўка і зацвітуць сады, уся вёска акунаецца ў зелень.

Любяць плюціцкія гаспадары зялёнага сябра чалавека — дрэвы. Амаль ля кожнай хаты расце некалькі груш, сліў і яблынь. А ў прысадах — ганарлівыя клёны, кунатыя вербы сябруюць з высокай таполяй і вязамі. Зеляненюць узвышшы і пагоркі ў палях, на іх узняліся нядаўна пасаджаныя маладыя лясочкі.

Мы ехалі загуменнямі вёскі. Высокія дрэвы выцягнуліся амаль перад кожнай сядзібай. Яны аберагаюць гумны ад ветраў, навальніц. А ўлетку, у гарачую спёку зялёная сцяна густых прысад у загуменні стрымлівае вятры-сухавеі, не дае ім перасушваць глебу.

На дрэвах скрозь шпакоўніцы, сям-там вісяць кармушкі для птушак. Гэта вучні мясцовай школы турбуюцца пра сваіх крылатых сяброў — памочнікаў хлебароба.

— А тыя шпакоўніцы, паказвае Юрка рукою, — аж з Беластока. Мая ўнучка з дзевятай школы сама іх майстравала.

Едзем далей і бачым ахапкі сена, што ўраслі ў глыбокі снег.

— Гэта мы зайцаў падкормліваем. Цяжка ім цяпер у холад і завею. Вунь бачыце, як шарачок ласуецца!

Мы глянулі ўправа і ўбачылі, як ля ахапка сена завіхаўся зайчык. Не зважаў ён ні на гоман, ні на скрып саней. А яшчэ далей, у кучы мякіны і амецця, шукалі сабе спажывы курапаткі.

На вуліцы разгаварыліся з бывалым тутэйшым паляўнічым, аматарам прыроды Андрэем Корпачам. Дзівімся, што столькі курапатак вакол Плюціч. І зайцы ў прыгуменні скачуць, не баяцца нават забягаць у двары.

— А ўсё таму, што бяздомных сабак ды катоў павынішчалі... Тэрміны палявання вытрымліваем. І падкормліваем зімою і птушак, і звяроў. Я сам тры статкі курапатак гадую. Бачылі, колькі іх бегае ў нас па загуменні?

Вяртаючыся назад у Беласток, мы зноў убачылі ля гумнаў і на пагорках у полі чароды курапатак. Яны купаліся ў снезе, шукалі нейкіх зярнят у пажоўклым быльнягу. А потым падымаліся на крылы і вялікай чарадою кідаліся ў бок гумнаў на кучы высыпанага ім амецця і мякіны.

Добрыя, руплівыя гаспадары, дбайныя аматары прыроды жывуць у Плюцічах.

А. Ч.


Рыс. 11


Рыс. 1


Рыс. 13


Рыс. 14


Шчыт хаты Сымона Грыгарука з вёскі Целушкі, Бельскага павета.


Акенца шчыта хаты Міхася Галубоўскага з вёскі Паўлы, Бельскага павета.



Надакенная ліштва шчыта хаты Анны Самайлюк з вёскі Трасцянка, Гайнаўскага павета.


Рыс 16


Рыс 15

6) выпрацаваць спосабы папулярызацыі этнаграфічных праблем беларускай нацыянальнай меншасці ў яе асяроддзі і ва ўсёй краіне;

У даны момант даследуюцца народныя абрады і вераванні, звязаныя з пахаваннем і нарадзінамі чалавека, у 6-ці вёсках нашага ваяводства. Даследаванні праводзяцца на падставе анкет, апрацаваных аддзелам Польскага этнаграфічнага атласа Інстытута гісторыі матэрыяльнай культуры ПАН. Вынікі даследаванняў атрымлівае наш музей і спамянутая вышэй навуковая ўстанова. Прадугледжваем пашырэнне тэматыкі навуковых даследаванняў на штогадовыя абрады, абрады вясельныя і іншыя. Даследаванні будуць праводзіцца на падставе анкет, альбо апрацоўвацца ўласнымі сіламі пры дапамозе супрацоўнічаючых з намі навуковых установаў (Этнаграфічны музей у Торуні, кафедра этнаграфіі Варшаўскага універсітэта, ваяводскі кансерватар помнікаў, Акруговы музей у Беластоку, асяродак навуковых даследаванняў Мазавецкага таварыства культуры).

Супольна з кафедрай этнаграфіі Варшаўскага універсітэта і ваяводскім кансерватарам помнікаў мы праводзім рэгістрацыю нерухомых помнікаў (розныя будынкі, жылыя дамы, культавыя фігуркі, рамесныя варштаты, ветракі і г.д.) У гэтай акцыі мы маем намер карыстацца дапамогай школьнікаў — гарцэраў і членаў ЗМВ. Этнаграфічны музей супольна з Камэндай гуфца ЗГП у Гайнаўцы звярнуўся з заклікам да ўсіх гарцэраў дапамагчы збіраць экспанаты. Гэтую акцыю мы плануем пашырыць на іншыя паветы.

Каб самадзейныя мастацкія калектывы маглі лепш выкарыстаць багатую вусную народную творчасць, па ініцыятыве бельскага аддзела БГКТ, аддзела асветы і культуры прэзідыума ПНР у Бельску і пры ўдзеле павятовага праўлення ЗМВ быў аб'яўлены конкурс на найлепшы фальклорны калектыў, рэпертуар якога мае складацца з песень, народных танцаў, апавяданняў, традыцыйных абрадаў (як вяселле, дажынкі, вечарніцы пры кудзелі) і г.д.

Этнаграфічная камісія, ажыццяўляючы свае планы, будзе супрацоўнічаць з зацікаўленымі навуковымі, культурна-асветнымі і грамадска-палітычнымі ўстановамі. Неабходна таксама наладзіць супрацоўніцтва з Беластоцкім навуковым таварыствам, Беластоцкім таварыствам культуры, Сельскагаспадарчым музеем імя Кшыштофа Клюка ў Цеханоўцу, Этнаграфічным музеем у Варшаве і іншымі ўстановамі, зацікаўленымі такой жа тэматыкай, як і наша этнаграфічная камісія.

Адначасова мы хочам у большай ступені публікаваць нашыя апрацоўкі ва ўсіх выдавецтвах пры супрацоўніцтве і дапамозе аддзела культуры ПВРН.

### ЗНЕШНЯЕ ЎПРЫГОЖВАННЕ ХАТ ПАЎДНЁВАГА ЎСХОДУ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# ◆ ШЧЫТ ◆

## 2

Узоры ўкладвання шалёўкі на цэнтральным сектары шчыта вельмі разнародныя, у большасці непаўторныя, і таму ў кароткім артыкуле паказаць можна толькі больш характэрныя. Найчасцей сустракаецца падзел на вертыкальна размешчаныя 2, 3, 4, 6, а нават — 8 чатырохвугольнікаў, якія ўтвараюць узоры сіметрычных елачак (гл. фотаздымак шчыта хаты Івана Кананчука — «Ніва» № 730).

Даволі эфектыўнымі з мастацкага пункту гледжання, але цяжэйшымі ў выкананні з'яўляюцца шчыты з укладкай шалёўкі на цэнтральным сектары ў выглядзе ромбікаў (гл. фотаздымак шчыта хаты Р. Андрэюка з вёскі Целушкі — «Ніва» № 730). Мы сустрэлі іх пяць (у вёсках: Целушкі, Рыбалы, Канюкі, Аўгустова, Бельскі пав., і Сацы, Гайнаўскага пав.).

Усе іншыя ўзоры ўкладкі шалёўкі на цэнтральным сектары шчыта з'яўляюцца камбінацыяй спалучэнняў чатырохвугольнікаў, ромбікаў і іншых геаметрычных фігур. Найбольш вобразна прадстаўляюць гэта малюнкі: 11 — шчыт хаты Івана Ірыдухі з вёскі Астрове, Дуброўскага пав., 12 — шчыт хаты Амяльяна Палаўянюка з вёскі Парцава, 13 — шчыт хаты Васіля Раманюка з вёскі Паўлы, Бельскага пав., і 14 шчыт хаты Міхася Грыка з вёскі Сушча, Беластоцкага пав., а таксама фотаздымак шчыта хаты Сымона Грыгарука з Целушкоў, Бельскага пав.

Пасярэдзіне шчыта пад енткай знаходзіцца адно акенца размерамі 30x50 см — 50x70 см. Па два акенцы мы сустрэлі толькі ў 8 выпадках, у гэтым палова — ў Целушках. Усе акенцы маюць формы чатырохвугольнікаў, перадзеленых найчасцей неахайна выкананымі рамкамі на тры часткі. Як цэнтральны элемент шчыта яно ўпрыгожваецца знізу, зверху, або з усіх бакоў арнаментавымі ліштвамі, якія ўтвараюць цэлую кампазіцыю. Ва ўсім захоўваецца суровая сіметрычнасць (гл. папярэднія фотаздымкі шчытоў хат Р. Андрэюка з Целушкоў, І. Кананюка з Сацоў, В. Баўтручука з Плюціч і іншыя). Упрыгожванні, якія выконваюцца на шалёўцы акенца (Максім Андрэюк і Іван Ігнацюк з вёскі Целушкі), сустракаюцца рэдка, у некаторых выпадках да гэтых шалёвак прымацоўваюцца з бакоў упрыгожаныя ліштвы (Аляксей Місеюк з вёскі Пухлы, Гайнаўскага пав., Васіль Краснадэмбскі з вёскі Стральцы, Бельскага пав., і Аляксандр Бэзюк з вёскі Крывая, Бельскага пав.) Найчасцей маюць даволі простую разьбу.

Значна часцей упрыгожваюцца акенцы зверху і знізу. Ліштвы гэтыя маюць розныя ўзоры. Верхняя ў форме стажка, коўрыка, над якім у многіх выпадках памяшчаецца разьба фігурак (птушак, конікаў, кветак або геаметрычных фігур). Прадаўжэннем гэтага коўрыка з'яўляецца гарызантальная, надта ўпрыгожаная арнаментамі ліштва, якая закрывае ентку і стыкі шалёўкі. Ліштвы гэтыя ўпрыгожваюцца з аднаго або абодвух берагоў.

Упрыгожванне ніжняй ліштвы акенца выступае амаль ва ўсіх выпадках ад замацавання карнізавага простага дажджавіка да складанай разьбы (гл. папярэднія фотаздымкі і мал. 15 і 16.).

**Ул. Юзвюк**

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### СЫРНІК ВЕЛІКОДНЫ

Здаецца, што толькі ўчора адгрымелі апошнія гукі карнавальных баляў, а ўжо, як кажуць, «на носе» велікодныя святы. А ці ж Вялікдзень быў бы Вялікаднем без сырніка?

Тым больш, што вясна набліжаецца няўхільна, пацяліліся каровы — і ёсць шмат малака і сыра, а таксама сталі таннымі яечкі. Адным словам ёсць дасканалая аказія да таго, каб зрабіць добры сырнік.

Перш за ўсё купляем 1,5 кг белага, тлустага сыра. Можна купіць на рынку, або зрабіць (гэта парада для вясковых гаспадынь) 2 сыры сярэдняй велічыні. Гарадскім гаспадыням раю папрасіць, каб сыры прывезлі цёшча.

Дастаткова адзін раз прапусціць сыр праз машынку. У асобнай місцы расціраем 1,5 чвэрткі масла (каля 350 грам) з трыма шклянкамі цукру. Дадаем паступова 12 жаўткоў і расціраем усё далей, пакуль не атрымаем зусім гладкую масу. Дадаем прапушчаны праз машынку сыр (лепш пакрысе), 5 сталовых лыжак крухмалу і 2 чайныя лыжачкі парашку да пячэння (альбо соды). У падрыхтаваную масу кладзем 100 г разынак і столькі ж смажанай **апельсіннай скуркі.**

Каб скурка была араматная і далікатная, робім яе так. Толькі што знятую з апельсінаў — мочым суткі ў халоднай вадзе, змяняючы ваду 2—3 разы. Заліваем свежай вадой і варым, пакуль скурка не стане настолькі мяккая, што яе можна пракалоць саломкай. Асушваем скурку на сіце і кроім на палоскі. Падрыхтоўваем сіроп (напрыклад, на 0,5 кг скуркі трэба ўзяць 0,5 кг цукру і шклянку вады), памешваючы, пакуль цукар зусім распусціцца і закіпіць. Тады кладзем скурку і смажым на слабым агні, пакуль не стане празрыстай. Скурку разам з сіропам трэба зблажыць у слоік, а беручы да сырніка, ці іншага пірага, трэба яе асушыць і пакроіць у костку.

І так застаецца дадаць у сырнік узбітыя бялкі. Бялкі трэба ўзбіваць на пену да таго часу, пакуль пена не будзе настолькі крэпкая, што не выліваецца, калі міску, у якой вы яе ўзбівалі, перавярнуць уверх дном. Толькі тады кожны пірог удасца.

Формы, у якіх вы збіраецеся пячы сырнік (з пададзенай масы выходзяць 3 сярэднія формы), трэба нагрэць у духоўцы і змазаць маслам, а пасля іх дно вылажыць пячэннем (гарбатнікамі — найлепш «цынамонкамі»). На гэта выліваем падрыхтаваную масу.

Пячы сырнік трэба 1—1,5 гадзіны (у залежнасці ад велічыні формачкі), у канцы пячэння агонь трэба паступова змяншаць. Выключыўшы духоўку, пакінуць там сырнік пакуль не астыне, бо інакш можа апасці. Толькі зусім халодны можна вылажыць з формы. Калі хто будзе пячы ў духоўцы на вугаль, ці ў сялянскай печы, тым лепш — печ астывае паволі. Найсмачнейшы сырнік бывае на 3-ці дзень.

Калі цёшча прывезла вам не 2, а 3 сыры адразу, а пры сырніку — на сыр ніхто глядзець не хоча, не перапмайцеся: раю вам зрабіць дасканалы **плаўлены сыр.**

Сыр трэба пакрышыць відэльцам на большыя кавалкі, крыху пасаліць і прыкрыць. Няхай так паляжыць у цёплым месцы некалькі дзён (зімой крыху даўжэй), пакуль не стане цягнуцца. Бярэм сталовую лыжку масла, распускаем на патэльні і ўкладаем прыплеснеўшы сыр. Смажым на слабым агні, памешваючы. Калі сыр распусціцца, дадаем 2 жаўткі, солі і крыху кмену. Зняць сыр з агню і хутка размяшаць, каб жаўткі не запарыліся. Атрыманую масу выліваем у нейкі посуд (найлепш у талеркі, якія звычайна ўжываюцца да селядцоў — маюць прадаўгаватую форму, сыр тады вельмі добра кроіцца.

На наступны дзень вы маеце смачнае і нештодзённае снеданне, а добры тумар вашага мужа забяспечаны на цэлы тыдзень.

**Гаспадыня**

## БРАТЫ АДШУКАЛІ БРАТОЎ



ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

На працягу 955 дзён існавання «рэспублікі Біяфра», з якіх 920 былі выпаўнены грамадзянскай вайною, заселеныя ібамі тэрыторыі Ўсходняй Нігерыі з'явіліся адным гіганцкім відовішчам жудаснай ігры. Ігры, якой не бачыў свет за мінулае чвэрцьстагоддзе. Нігерыю засяляюць тры галоўныя этнічныя групы: ібы, яруба і хауса. Восем мільёнаў ібаў супрацьпастаўлена 27 мільёнам ярубаў і хаусаў. У вялікім скарачэнні гаворачы, прыход да ўлады ў Нігерыі ібаў выклікаў лютую нянавісць у хаусаў, над якімі ібы заўсёды дамінавалі сваёй працавітасцю, добрасумленнасцю, рухавасцю, усюды ўмелі ўкруціцца і мелі галаву да гандлю, да адміністрацыі. Уночы з 28 на 29 ліпеня 1966 года, калі хауса забілі кіраўніка нігерыйскай дзяржавы, ген. Іронзі, іба, пачаліся масавыя забойствы ібаў, якіх было поўна на кіраўнічых пасадах ва ўсёй Нігерыі. Падпальваліся іх дамы, жыхары іх згаралі жыўцом разам з дзяцьмі, іх рэзалі, забівалі каменнямі, разрывалі на кавалкі. Загінула трыццаць тысяч. Два мільёны ўцякло на сваю радзіму, за рэчку Нігер.



Генерал Гавон

У гэтым усім фактычны пачатак рэспублікі Біяфра. Ваенны губернатар Усходняй Нігерыі, сам іб, падпалкоўнік Аджукву, аб'яўляе ўтварэнне самастойнай Біяфры (назва ад марскога залізу). Утрыманне Біяфры было б канцом Нігерыі: тут, на ўсходзе, усе багацці гэтай найбольшай афрыканскай краіны, шахты, нафта, прамысловасць, капітал.

Здарылася гэта не адразу, у канцы мая 1967 года. Аджукву, высокаадукаваны і здольны палітык ды арганізатар, памятаў пра тое, чым была, напрыклад, Катанга для Конга, Катанга — сэрца Конга. Рабіў усё, каб не было падстаў да параўноўвання яго з няслаўнай памяці аферыстам Чомбе. Адначасова ведаў, што можа разлічваць на дапамогу заграніцы, перш за ўсё, Францыі, зацікаўленай перахватам нафты ў Нігерыі ў свае рукі. Аджукву гаварыў пра права да нацыянальнага самавызначэння. Заўжды меў час для журналістаў, па яго заказу жэнеўская рэкламная фірма «Маркпрэс» накіравала ў Біяфру дзвесце журналістаў, задачай якіх з'яўлялася прапаганда ідэі Біяфры, гэтай Катангі Нігерыі.

Зямля ібаў, акружаная нігерыйскімі войскамі, перажыла месяцы і гады страшэннага голаду, ад якога загінула каля двух мільёнаў асоб, пераважна дзяцей. У першых днях студзеня 1970 года Аджукву зразумеў, што катастрофа ідэі Біяфры немінучая: тэрыторыя яго рэспублікі паменшала да двух тысяч квадратных кіламетраў. З усіх бакоў чуваць артылерыйская кананада. У чацвер, 8 студзеня, Аджукву склікаў свой урад, заявіў аб сваёй дымісіі і вызначыў людзей, якія разам з ім пакінуць Біяфру. Для кіравання далейшымі падзеямі ўпаўнаважыў падпалкоўніка Эфіёнга, які аб'явіў склад дэлегацыі для перагавораў з федэральным урадам Нігерыі ў Лагос, узначальваемым генералам Гавонам, трыццаціпяцігадовым равеснікам Аджукву, родам з аднаго невялікага племені на Поўначы Нігерыі. Аджукву ўцёк самалётам у Партугалію, забіраючы сям'ю і пажыткі. Уцякае апоўначы з апошняга аэрадрома Улі, які фактычна з'яўляецца расшыранай шашою ў густым трапічным лесе. 12 студзеня Эфіёнг аб'яўляе капітуляцыю: «Біяфра ўжо не існуе».

Біяфранскую дэлегацыю ў Лагос прынялі без найменшых прыкмет варожасці. Вітаючыся з Эфіёнгам, Гавон сказаў да яго па імені: «Цешуся, што зноў бачу цябе, Філіп». Дакладна ў 14 гадзін 15 студзеня падпісана паразуменне. Эфіёнг, перадаючы дакумент Гавону, гаварыў: «Ад сёння Рэспубліка Біяфра не існуе. Нігерыя з'яўляецца зноў аб'яднаным народам». Гавон устаў і сказаў: «Цяпер браты адшукалі братоў», і сардэчна паціснуў Эфіёнга.

Кал б здарылася такое 31 месяц таму назад, не загінула б ад голаду і куляў каля двух мільёнаў ібаў. Сапраўднае няшчасце ібаў было ў вайне. Ад яе ўсе няшчасці.

(ся)

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### ШТУЧНЫ МОЗГ?

**Аб магчымым і немагчымым у кібернетыцы.** Вядомы англійскі вучоны Грэй Уолтэр (стваральнік кібернетычных «чарапах») сцвярджае: пры цяперашнім стане тэхнікі пабудаваць штучны мозг немагчыма. Каб змадэліраваць толькі адну клетку мозгу — пры максімальна магчымай мініятурызацыі, — патрэбен аб'ём у 1 кубічны сантыметр. Значыць, аб'ём усяго штучнага мозгу павінен скласці не менш як паўмільёна кубаметраў. Кошт такой канструкцыі Уолтэр ацэньвае ў $10^{18}$ ф. ст. Да яго трэба дадаць расходы на атрыманне 1.000.000 кілават электраэнергіі, неабходнай для работы звышмашыны. На пабудову такой канструкцыі ледзь хапіла б гадавога бюджэту Англіі. У дадатак такая канструкцыя выконвала б функцыі чалавечага мозгу толькі часткова.

## Чэрць стагоддзя назад




### ПАРТАЙГЕНОСЭ ШЫЛЛЯТ

Увесь наступны дзень рыхтаваліся да сустрэчы. Прыдумалі ўсялякія меры перасцярогі. Генка сказаў:

— Нічога мы з табой асаблівага не прыдумаем. Была не была — трэба ісці.

Ён ішоў не спяшаючыся. Невысокага росту, каржакаваты, з буйнымі рысамі твару. У левай руцэ палка. Усё так. Супадае...

— Геносэ! — сказаў ён, спыніўшыся крокі за тры ад нас.

— Так, — адказалі мы адначасова. Генка, апярэдзіўшы мяне, дадаў: — Рана змяркаецца.

— Вас завуць Аўгуст Шыллат? — спытаў я.

— Аўгуст, але не Шыллат, а — Шыллят. Вы завіце мяне «партайгеносэ». Я — камуніст. Мы змагаемся за справу адной партыі. Значыць, мы таварышы па партыі — «партайгеносэ», — растлумачыў Шыллят.

Мы назвалі свае клічкі. Я папрасіў прабачэння, што не можам назваць сапраўдныя прозвішчы.

— Я разумею. Гэта не мае значэння. Але ж вы — савецкія парашутысты? Так?

— Так.

— Таварышы дарагія, як шкада, што я не сустрэў вас яшчэ 27 ліпеня вечарам. Я ўсё ездзіў па ўзлессі каля вёскі Аўэрвальд, спадзеючыся сустрэцца.

— Памятаеш, яшчэ Павел Андрэевіч сказаў з гэтага выпадку: «Правакатар?» — напомніў я Генку.

— А як жа, памятаю.

— Мы чулі, калі вы нас клікалі, — сказаў я, — але не адгукнуліся, бо думалі, што правакацыя.

— О, дарагія таварышы, усё магло быць па-іншаму, калі б мы тады сустрэліся. Чаму вы толькі ўдваіх? Па чутках, вас павінна быць чалавек пяцьдзесят? Не чуваць жа было, каб так многа загінула...

— Глядзі ты, правільна падлічылі фрыцы. Прыкладна столькі і ёсць.

— Што ён гаворыць? — спытаў Шыллят.

— Ён кажа, што ва Усходняй Прусіі ёсць разведчыкі акрамя нас. І яны дзейнічаюць.

— Мы маглі б вам дапамагчы, — паўтарыў немец.

— Яшчэ не позна і цяпер, — асцярожна заўважыў я.

— О, вядома, так. Вы праўду кажаце. — Шыллят зняў з плячэй ранец, выняў і разгарнуў бутэрброды.

— Частуйцеся. Мая жонка падрыхтавала. Вы вельмі схуднелыя. Даводзіцца галадаць, так?

— Ды гэта ў прыцемках так здаецца... — адгаварыўся я жартам.

— Не, не. Я бачу. Вам нялёгка. Я сам шэсць гадоў адседзеў у турме. Ведаю, што такое голад, знясіленне. Нацысты патрабавалі, каб я аддаў сціг акружной партарганізацыі. Але яны не на таго нарваліся! Я яго надзейна схаваў. Ён і сёння там. Захаваў я і свой партбілет.

Мы ўважліва слухалі, прысеўшы за штабелем.

— Вы ешце! Ешце... Бярыце вось каву — запівайце. Ёсць у нашай вёсцы яшчэ адзін камуніст. Яго завуць Ернст Райчук. Я вас пазнаёмлю з ім. У яго вялікая сям'я — пяць дочак. Вам абавязкова трэба сустрэцца з ім. Калі здарыцца што са мной — будзе ён. Надзейны, свой чалавек.

— А ў вас вялікая сям'я?

— Адзін сын — Ота. І жонка. Вы ведаеце, чаму мяне вызвалілі з канцлагера? Ім спатрэбіўся мой сын. Пушачнае мяса патрэбна. Яму хутка васемнаццаць. Высокі, стройны хлопец. Нацысты прызываюць яго ў войскі «СС». З дня на дзень могуць забраць.

Мне паказалася падазронай яго такая шчырасць. Толькі потым я зразумеў, што ён меў патрэбу падзяліцца, пагаварыць шчыра, без страху. Яму, камуністу, вельмі радасна было сустрэцца з людзьмі адных поглядаў, адной мэты.

— Нам трэба дамовіцца аб канспірацыі. Вы ведаеце, што можа здарыцца са мной і маёй сям'ёй, калі ў СД даведаюцца пра нашы сувязі?

— Здагадваемся, — адказваю.

Шыллят паднёс далонь к губам і дзьмухнуў на яе. Пасля гэтага ён вымавіў адно толькі слова:

— Попел...

— Будзем спадзявацца на лепшы канец. Навошта так сумна...

— Мне ўжо нічога не страшна. Я пражыў шэсцьдзесят пяць гадоў. Мне вельмі шкада Ота. Нельга дапусціць, каб ён служыў нацыстам. Але мы нічога не можам прыдумаць...

— Вы, як старажыл, напэўна, добра ведаеце Усходнюю Прусію. Раскажыце нам пра абарончыя ўмацаванні.

— Так, я многа ведаю. Яшчэ пры кайзеры я служыў на ваенным флоце. Даводзілася быць на ўсім узбярэжжы Балтыкі, у крэпасцях Кенігсберга, Пілау. Але адкладзем размову аб гэтым на пасля. У мяне ёсць надзейныя людзі, якія могуць памагчы ў гэтым больш, чым я. Яны ведаюць, што будавалася тут пры нацыстах. Сёння давайце падумаем пра вас. Як вы жывяце? Як з начлегам?

— Мы выкапалі ў розных месцах некалькі зямлянак. У іх і начуем.

— Прабачце мне за недалікатнасць. Але ж я павінен даць вам параду. Гэта ў інтарэсах вашай бяспекі...

Аўгуст Шыллят папярэдзіў нас, каб мы не выбіралі для стаянак кварталы з чыстым, прыгожым сасняком, што паміж ракой і раўчукамі. Лес гэты рэдкі, забалочаны, у выпадку чаго, дрэнна манеўраваць. Галоўнае ж — там многа

